# наша свабода

№72 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 ЛІСТАПАДА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Народнае меркаванне

стар. 7

## Аблегчанае БТ працягне існаванне

З 8 лістапада Беларускае тэлебачанне пераходзіць на новую сетку вяшчання і ўводзіць шэраг новых перадачаў. Мэта – нібыта павялічыць глядзельнасць і канкурэнтаздольнасць з расійскімі каналамі. Разам з тым змены на БТ робіцца з відочным палітычным разлікам – менш як праз год прэзідэнцкія выбары. На тэлебачанні спрэс ідэалогія і забаўкі.

стар. 6

## Прыватнікі

Простыя разлікі сведчаць, што прылічвае ў большай ці меншай ступені сябе да прадпрымальнікаў амаль 900 тыс. жыхароў нашай краіны. Тым часам у падатковых органах зарэестравана ўсяго каля 100 тыс. суб'ектаў гэткага гатунку.



Фота IREX/ProMedia

На жаль, гэты трактар нагадвае нашую дзяржаўную эканоміку. Чытайце артыкул «Генеральным курсам — у маргеналы» на стар.6

## Лівія засталася без беларускай зброі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У сераду ўвечары з сталіцы Лівіі Трыпалі ў Мінск вярнуўся Аляксандр Лукашэнка. Ягоны афіцыйны візіт у Лівійскую Джамахірыю доўжыўся каля 24 гадзінаў.**



Як паведаміў прэс-сакратар А.Лукашэнкі Мікалай Барысевіч, падчас візіту былі праведзены вельмі плённыя сустрэчы з кіраўніком Лівіі палкоўнікам Муамарам Кадафі (двойчы) і Сакратаром Усеагульнага народнага камітэта (прэм'ер-міністрам) Мубаракам Аль-Шамехам. Па словах М.Барысевіча, уся праграма візіту была выкананая, падпісана некалькі афіцыйных дакументаў аб двухбаковым супрацоўніцтве ў розных галінах.

Між тым, па нашай інфармацыі, візіт прайшоў зусім не так, як чакалася. Як стала вядома з нашых крыніцаў, Беларусь планавала прапанаваць лівійскім таварышам на продаж розную вайсковую тэхніку і зброю. Ізюмінкай беларускай прапановы мусіла стаць машына для разведвальных і дыверсійных аперацыяў 2-Т, пра прэзентацыю якой мы паведамлялі ў мінулым нумары. Аднак тут Беларусі не пашанцавала. Літаральна напярэдадні Лівію наведала расійская дэлегацыя і прадала рэжыму Кадафі ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі прыкладна на 100 мільёнаў долараў. Такім чынам, пакуль што вострай патрэбы ў беларускай зброі Лівія не адчувае.

*Заканчэнне на стар.3*

## Где улыбка Касьянова?

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Председатель российского правительства Михаил Касьянов так в Минск и не приехал. Предполагалось, что 27 октября он примет участие в заседании исполкома Союза Беларуси и Российской Федерации, который стали называть «союзным правительством».**

Среди вопросов, которые намерены были обсудить в Минске, был и вопрос о судьбе совместной программы «Союзный телевизор», реализация которой наталкивается на ряд препятствий. Как известно, из-за позиции, занятой российскими таможенниками, белорусские предприятия «Витязь» и «Горизонт» стали испытывать финансовые трудности. Кстати, информацию о предстоящем приезде в Минск М.Касьянова выдал журналистам директор ПО "Горизонт" г-н Семашко, которую затем подхватили различные СМИ. Не исключалось даже появление М.Касьянова на самом «Горизонте». К нему готовились... Однако представители белорусского правительства предпочитали хранить молчание по поводу возможного приезда председателя российского правительства. Не лишним будет вспомнить и то, что из программы «Союзный телевизор» был исключен российский завод «Рубин». Некоторые источники считают, что это было сделано по настоянию А.Лукашенко по политическим мотивам. Дело в том, что предприятие «Рубин» возглавляет Анатолий Лашкевич – видный деятель оппозиционной Партии коммунистов Белорусской (ПКБ) во главе с Сергеем Калякиным. Эти же источники полагают, что именно удачливый бизнесмен А.Лашкевич, которого вынудили власти переехать в Россию, является реальным спонсором ПКБ.

Непростое отношение А.Лукашенко и к ведущим фигурам российского правительства. Он неоднократно заявлял, что они разрушают белорусско-российский союз. Похоже, аллергию вызывает и сам Михаил Касьянов. Помнится, с каким недружелюбием была преподнесена зрителям белорусского ТВ поза со скрещенными на груди руками и улыбка М.Касьянова, когда он слушал ответные слова своего коллеги из Минска В.Ермошина о союзных планах. Больше улыбки М.Касьянова в адрес нынешних руководителей Беларуси так никто и не увидел. Призывы В.Ермошина к «братскому прагматизму» явно натолкнулись на «холодный прагматизм» российских союзников. Обращает на себя внимание и такой факт. После несостоявшегося визита в очередной раз появились слухи о скорой отставке М.Касьянова. Об этом с удовольствием рассуждают и минские стратеги. Любопытно и другое совпадение. Вместо российского премьера 27 октября Минск посетил «газовый маршал» Рэм Вяхирев. Последствия его блиц-визита официальной пропагандой представляются радужными для правящего режима. Порою признания в любви к могущественному «Газпрому» проявляются в неприличной форме. Так, одна называющая себя солидной государственная газета прямо призналась в своей передовице: «Труба, которую хочется гладить». И ведь не только «гладят». Прямо-таки Камасутра...

Что касается дел союзных, то, по последним данным, планировавшееся заседание по сути виртуального союзного правительства перенесено. Теперь, говорят, оно должно состояться 14 ноября. И уже не в Минске, а в Москве.

## Выход к новой свободе

Александр ДУБРАВИН

**Давайте поспорим, что мы живем в пору осуществления наших прежних желаний. Помните, при СССР, о чем мы мечтали? Поехать в другие страны, увидеть мир. Свободно приобрести автомобиль, лучше иностранный. Беспрепятственно слушать современную музыку, желательно забугорную. Свободно заниматься творчеством. Смотреть лучшие зарубежные фильмы, в том числе жутики, боевики, эротику. Купить кусок земли для дачи, огорода или дома. Покупать джинсы, дубленки и другую нормальную одежду, еду, книги, диски, видео, музыкальные центры в магазине, а не в подворотне и не с черного хода по блату. Не работать, если не хочется и есть средства к существованию. Создать свою фирму и послать к черту государственные конторы. И т.д., в том же русле.**

Что, скажете, не осуществилось? Осуществилось буквально все, до мельчайших капризов, возникавших иногда в голове отдельно взятого индивидуума. Например, абсолютно невозможная при Совдепии, крамольная, чреватая преследованием со стороны КГБ и помещением в психушку мечта о том, чтобы в Минске (!) состоялся концерт, скажем, *Deep Purple*. Нет, что ни говорите, а СССР сам себе выкопал могилу и никто не виноват в его распаде. Так ему и надо, туда ему и дорога. Гнусная, жадная, подлая и отвратительная была система, хотя некоторые мазохисты и стонут от удовольствия при воспоминаниях о ней.

Мысль материальна. Мы мечтали о свободе как о *возможности*, совершенно не представляя себе механизмов ее осуществления. Просто в один прекрасный день нам должны были объявить по телевизору: пришла, мол, свобода. Невероятно, но даже эта мечта исполнилась на все сто процентов. Объявили. Пришла *возможность* свободы. Правда, мы не знали толком, что с ней делать, как ее реализовать в полной мере. Но это уже другой вопрос.

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **У Беларусі з 31 кастрычніка зноў падаражэлі нафтапрадукты.** Падаражэнне склала прыкладна 10%. У выніку літр бензіну А-76 стаў каштаваць цяпер 455 рублёў, АІ-92 –564 рублі, АІ-95 – 646 рублёў, дызельнае паліва прадаецца па 411 рублёў.

■ **За 9 сёлетніх месяцаў беларусы спажылі гарэлкі на 21% меней, чымсьці летась.** Гэта па 15 бутэлек на кожнага. А вось віна і піва сталі піць болей – на 25% і 6% адпаведна.

■ **З 1 лістапада павялічыліся пенсіі. Мінімальная ўзрасла на 13,6% і склала трохі больш за 19 тысячаў рублёў.** Максімальная пенсія – прыблізна 50 тысячаў рублёў.

■ **31 кастрычніка А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт «Пра захады па забеспячэнні парадку пры правядзенні аперацыяў з каштоўнымі металамі і каштоўнымі камянямі».** Дэкрэт устанаўлівае, што набываць і прадаваць вырабы з каштоўных металаў і камянёў могуць толькі юрыдычныя асобы, а таксама прадпрымальнікі – пры наяўнасці ліцэнзіі. Прыстаўванне да грамадзянаў з прапановай набыцця або продажу вырабаў з каштоўных металаў цягне штраф у памеры ад 10 да 30 мінімальных заробкаў.

**УВАГА!**
**Чарговы нумар газеты НАША СВАБОДА выйдзе 10 ЛІСТАПАДА**

**4 лістапада 2000 г. адбудзецца пікет, арганізаваны бацькамі дзяцей, загінуўшых 30 траўня 1999 г. у падземным пераходзе станцыі метро «Няміга».**

Мэта пікета – прыцягненне ўвагі грамадскасці да ўшанавання памяці трагічна загінуўшых.

Месца правядзення пікета – **пляцоўка перад Домам фізкультурніка (200 метраў ад станцыі метро «Няміга»). Час – з 12.00 да 21.00.**

Цэнтр сацыяльнай абароны «Няміга-99»

## НАДВОР'Е




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**1085**

# Выход к новой свободе

*Окончание. Начало на стр.1*

Вы мне сейчас же возразите: ну а Лукашенко, кто о нем мечтал? У кого такая извращенная фантазия? Куда пойти и кому набить за это репу?

Мы все склонны судить о мире и о людях по себе. Приписывать свои качества и мотивы поступков другим людям. Мысленно строить Вселенную вокруг своей персоны. Именно поэтому так трудно, порой, найти общий язык даже в своей семье, не говоря уже о государстве. Представьте себе, о Лукашенко мечтали очень многие. Например, люди со стойкими комплексами неполноценности, инвалиды, хронические неудачники, провинциальные малообразованные честолюбцы. О Лукашенко мечтали доярки, замученные сквозняками в дырявых вонючих коровниках. Малоквалифицированные рабочие, вчерашние трактористы и скотники, вырванные безнадегой из родной деревни и занесенные судьбой в облупленную и загаженную городскую общагу. Завистливые и злые старушонки, ядовитые и желчные старички, всей душой желающие наказания тех, кто ездит на шикарных автомобилях и строит коттеджи (расстрелять, повесить, на нары!). Одинокие тоскующие старые девы в своих квартирах-скворечниках, пропахших котами и нафталином. Да мало ли... О Лукашенко мечтал тот, кто чувствовал себя на обочине жизни. А таких было немало. Коллективно они создавали мысленный портрет высокого крепкого мужчины, своего в доску, может быть не шибко грамотного, но зато справедливого, решительного, настойчивого и бескомпромиссного, который всех будет строить, писать указы, разгонять, выговаривать, снимать с работы и сажать в тюрьму. О том, что эти функции в одном лице совмещать опасно, никто ведь и не подозревал. Коллективное желание было очень сильным, и таковой претендент немедленно нашелся в виде *возможности*. То есть, он мог стать таким при определенных обстоятельствах. Но не стал. Вначале некому было обломать, а потом уже нельзя было совладать.



Но коллективная мысль не дремлет. И в результате массового разочарования, всеобщей усталости, желания перемен и просто удивительной бездарности властей у нас появилась *возможность* выбрать в следующем году нового президента. Обратите внимание: *возможность*, которую еще нужно реализовать. Как же это сделать?

У меня есть некоторые идеи на этот счет, но они еще недостаточно кристаллизовались. Это, пожалуй, тема для нового материала. А пока лишь в самом общем виде изложу то, что все мы, противники нынешних порядков, а нас, как выяснилось, в стране почти восемьдесят процентов, должны обязательно сделать.

Прежде всего, способствовать объединению всех здоровых политических и общественных сил в одно целое. Делить пока нечего ни политическим партиям, ни профсоюзам, ни интеллигенции, ни рабочим и селянам. В единстве – наша сила. Платформа для такого объединения уже ясно определилась: суверенитет страны, законность, рыночная экономика, права человека. О деталях, методах, предпочтениях, о подходах и разновидностях той или иной модели дальнейшего развития государства будет время поспорить потом, после решения главной задачи. Всем участникам согласительного процесса нужно, как жабу в канаве, придушить свой личный и корпоративный эгоизм, зависть, прежние обиды, подозрения и меркантильность. Все работают на страну. Уже в ближайшее время необходимо определиться с кандидатами на пост президента от всех демократических сил и путем здоровой внутренней конкуренции определить основного кандидата и его дублеров, коллективно выработать и согласовать программу действий на выборах. Прекратить партизанщину, подчиниться дисциплине и пунктуально выполнять свою часть общей программы. Культивировать *подчеркнуто* уважительное и доброжелательное отношение к своим товарищам по борьбе с режимом. Несдержанный язык, порой, приносит самый непоправимый урон общему делу. Вот тот минимум, без которого победа на будущих выборах проблематична.

А что же можешь сделать ты, читатель, для торжества справедливости? Все. Нынче ты должен сделать абсолютно все, что в твоих силах. Считай, что наступает самый важный момент в твоей жизни и жизни твоей страны. Но самое главное – ты обязательно должен позитивно мыслить, помня, что мысль материальна. Честное слово, ни одна пропаганда не наносит такого урона свободе, как публичные рассуждения нытиков и слабаков, для которых все и всегда заранее предрешено. Как поется в одной легкомысленной песенке: все в твоих руках. Или в голове? ■

# Лівія засталася без беларускай зброі

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Горкую пілюлю для Аляксандра Лукашэнкі не змагла падсаладзіць нават найвышэйшая ўзнагарода Вялікай Сацыялістычнай Народнай Лівійскай Арабскай Джамахірыі – ордэн Рэвалюцыі, уручаны кіраўніком краіны, палкоўнікам Муамарам Кадафі пасля афіцыйнага абеда ў гонар беларускага калегі.

Па словах прэс-сакратара А.Лукашэнкі, ягоны шэф адазваўся пра кіраўніка Лівіі як пра «разумнага, мудрага чалавека, неардынарнага палітыка». Ён заявіў таксама, што ўсё тое, дагэтуль чутае або чытанае ім пра М.Кадафі, ёсць стэрэатыпамі, якія далёка не адпавядаюць рэчаіснасці.

Трэба разумець, адстаўному маёру А.Лукашэнку ёсць чаму павучыцца ў палкоўніка М.Кадафі ў справе дзяржаўнага кіравання. У 1969 годзе палкоўнік Муамар Кадафі захапіў уладу ў краіне – і да гэтага часу застаецца яе кіраўніком. Цікава, што ніякага афіцыйнага тытула накшталт прэзідэнта М.Кадафі не мае, а лічыцца проста Кіраўніком Лівійскай Рэвалюцыі. Ён усталяваў у краіне уласнапрыдуманую палітычную сістэму – сумесь сацыялізму і іслама, названую М.Кадафі «Трэцяй міжнароднай тэорыяй». У 70-80-я гады Лівія падтрымлівала міжнародны тэрарызм, за што была пакараная эканамічнай блакадай. Санкцыі супраць яе былі прыпыненыя толькі летась, у красавіку.

Аднак залаты запас Лівіі складае 7 мільярдаў долараў, а разведаныя запасы нафты – 3,4 мільёна тонаў, і гэта, на думку беларускага кіраўніцтва, добрая нагода для супрацоўніцтва з ёй. Дастаткова сказаць, што толькі за 8 месяцаў гэтага года Беларусь паставіла ў Лівію тавараў на 1558,3 тысячы долараў — фотахімікаты, фотапласціны і фотаплёнкі, провад ізаляваны, кабель, шыны і г.д. Разлік за тавары вёўся жывымі грашыма, што вельмі выгадна Беларусі. ■

## «Вік, ідзі дамоў!»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Пікет каля нямецкай амбасады збіраюцца правесці сёння людзі, якія называюць сябе Беларускай партыяй свабоды — такія звесткі сталі вядомыя НАШАЙ СВАБОДЗЕ з дасведчаных крыніцаў.

Час правядзення несанкцыянаванага пікета — з 12 да 14 гадзінаў. Хаця заяўка на ягонае правядзенне і падавалася ў Мінгарвыканкам, адтуль прыйшоў адказ — не дазволіць правядзенне пікета каля амбасады ФРГ. Прычынай правядзення пікета стала палітыка, якая праводзіцца кансультатыўна-наглядальнай групай АБСЕ ў Беларусі і асабіста яе кіраўніком, прадстаўніком Германіі Хансам-Георгам Вікам, а таксама ягонае скандальнае выказванне 6 кастрычніка гэтага года аб тым, што АБСЕ працягам апошніх шасці гадоў вяла палітыку далучэння Беларусі да Расіі.

У заяве, якую распаўсюдзілі БПСаўцы, у прыватнасці, кажацца: «Гэтым цынічным выказваннем Х.-Г. Вік выкрыў сваю сапраўдную сутнасць – агента-прадстаўніка нямецкіх «палітыкаў-прагматыкаў», якія дзеля ўласнай эканамічнай выгады здольныя ахвяраваць інтарэсамі гэтак званых «малых» народаў. Гэта – новы пакт Молатава-Рыбентропа, скіраваны супраць Беларусі!» ■

## Венский приговор Беларуси

**Рыгор БУЯН**

2 ноября Постоянный комитет ОБСЕ в австрийской столице рассматривал так называемый «белорусский вопрос». Но в центре внимания уже была ситуация в республике после выборов в палату представителей. Главным докладчиком был руководитель КНГ ОБСЕ Ханс-Георг Вик. На момент подписания номера итоги заседания еще известны не были. Однако накануне Х.-Г.Вик весьма резко высказывался по последствиям избирательного фарса. Посол докладывал Консультативному совету демократических партий, что крупнейшие международные структуры скептически воспринимают заверения официального Минска о демократичности выборов. В КНГ ОБСЕ поступила масса документально зафиксированных свидетельств о массовых нарушениях законодательства во время первого тура голосования, в том числе и во время досрочного голосования.

«Озабоченное тем, чтобы не потерять контроль над парламентом – как бы мало власти у него сегодня не было, – белорусское правительство упустило серьезную политическую возможность расширить политическую базу государственных институтов и начать постепенный, но непрерывный процесс реформ», — заявлял накануне своей поездки в Вену Ханс-Георг Вик. ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**1. Якія функцыі так званай «верхняй палаты» лукашэнкаўскага парламента?**

**2. Ці правільна тое, што вялікі працэнт так званых «сенатараў» прызначаецца асабіста Лукашэнкам?**



**АЛЕНА, навучэнка архітэктурнага каледжа:**

— Ха! «Выпадкова» не ведаю.

— Думаю, не вельмі правільна. Здаецца ж народ мусіць выбіраць...

**АНАТОЛЬ ЯЎГЕНАВІЧ. Без фота:**

— Выконваць ролю прэзідэнта.

— Я адказаў на пытанне ў першай частцы.



**ВОЛЬГА, навучэнка:**

— Не ведаю.

— Ня правільна, бо Лукашэнка выбярэ туды тых, хто будзе яму бліжэй, сяброў, знаёмых...



**БРАНІСЛАЎ ПЯТРОВІЧ, загадчык крамы:**

— Не, чэснае слова, я не цікаўлюся палітыкай, не ведаю.

— А вось гэта я ведаю, але лічу, што гэта ня правільна, мусіць выбіраць народ, а не прэзідэнт.



**ДЗЯНІС, студэнт:**

— Я палітыкай не цікаўлюся.

— Мне пофігу.

**УЛАДЗІМІР, прадпрымальнік. Без фота, хоча захаваць бізнес:**

— Без разумення абсалютна.

— Ды ён туды прызначае — сто працэнтаў!



**АЛЯКСАНДР, эканаміст:**

— (доўга думаў) Не, не ўспомню.

— Гэта няправільна, бо для чаго такія дэпутаты ў прынцыпе патрэбныя, якіх прызначае прэзідэнт?!



**СЯРГЕЙ, з БПСМ:**

— Яны зацвярджаюць рашэнні ніжняй палаты, але гэта ўсе мае пазнанні.

— Напэўна, правільна, раз так робіцца.



**АЛЯКСАНДР БЕНЬКО, прадзюсер, журналіст:**

— У тым вось і справа, што не ведаю, па-мойму ніякіх.

— Ня правільна, бо яны могуць праводзіць рашэнні, угодныя Лукашэнку.



**ЮЛЯ, студэнтка:**

— Не ведаю. Усё роўна.

— Ня правільна, выбіраць трэба, а не прызначаць.

**МІКАЛАЙ, ахоўнік. Без фота:**

— Што вы кажаце? А-а, заканадаўчая.

— Ну гэта ж у яго прэрагатыве. А як там у Расіі? Там усіх выбіраюць без прэзідэнта? Значыць у нас не зусім правільна.

**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Генеральным курсам — у маргіналы

## З пераходам на расійскі рубель беларусам прыйдзецца прасіць зробленыя грошы ў маскоўскіх банкіраў


Фота IREX/ProMedia

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Калі напрыканцы першага года ўладарання А.Лукашэнкі стала зразумела, што эканоміка Беларусі не здольная адначасова павялічваць аб'ёмы вытворчасці і належна плаціць за неабходныя для гэтага рэсурсы, беларускі прэзідэнт не вынайшаў нічога лепшага, чым гандаль суверэнітэтам уласнай краіны.**

У выніку была падпісаная дамова аб стварэнні «міні-СССР» у складзе Беларусі і Расіі, платай за што стала скасаванне запазычанасці за расійскія энерганосьбіты. Як казаў у лютым 1996 года Ельцын, падпісваючы адпаведную дамову: «З гэтага моманту ніхто нікому нічога не павінен».

Але справы не заўсёды спяшаюцца за словамі зямных валадароў. Нерэфармаваная, па глыбіннай сваёй сутнасці савецкая, беларуская эканоміка проста не можа працаваць вынікова, прыносіць прыбыткі, з якіх магчыма плаціць даўгі. Таму запазычанасць Беларусі перад Расіяй пачала ўзрастаць у той прапорцыі, у якой павялічваліся аб'ёмы яе вытворчасці. Таму ў гандлі з Расіяй адмоўнае сальда на гэты момант складае прыкладна 1,3-1,4 мільярда долараў, а беларускія прадпрыемствы маюць перад расійскімі запазычанасць у памеры больш за 500 мільёнаў долараў, каля паловы якой прыпадае на прыродны газ. Карацей кажучы, маем поўны правал генеральнага курса Лукашэнкі.

Што звычайна робяць разумныя людзі, калі іх дзеянні даюць такі плён? Пасумаваўшы, радуюцца, бо адмоўны вынік паказвае, у якім напрамку пошук не мае сэнсу. У нашым выпадку даводзіць, што трэба рэфармаваць эканоміку ў рынкавым накірунку. Так зрабіў бы кожны разумны чалавек, але не палітык, які ўзяў сабе ролю Данка, а выканаў у адносінах да народа ролю Івана Сусаніна.

Раю пачытаць афіцыйныя беларускія выданні. У іх, калі артыкулы не маюць відавочна заказнога характару, шмат слушных думак наконт рэальнага стану рэчаў. Але ніхто з аўтараў, займаючы высокія пасады, не ў стане прапанаваць альтэрнатывы. Па-першае, каму прапаноўваць, калі правадыр усё яшчэ лічыць сябе Данкам? Па-другое, у якім балоце іх пасля такой прапановы прыйдзецца шукаць? Вось і прыходзіцца рабіць выгляд, што ўсё «ідзе па плану». Таму «ў планы» ўключылі аб'яднанне грашовых сістэмаў дзвюх краінаў, у развіцці якога напрыканцы лістапада плануецца паставіць кропку. Гэтым разам збіраюцца падпісаць так званае базавае пагадненне аб прынцыпах паглынання беларускай грашовай сістэмы расійскай. Жаданне беларускага боку атрымаць хоць нейкія грошы, каб працягваць выбраны «раз і навсегда курс», адсунула на другі план ужо і пытанне аб праве Беларусі на частку грашовай эмісіі ў рамках агульнай грашовай сістэмы. Такім чынам, з апошняга варыянта пагаднення, які збіраюцца падпісаць, ужо выключаны пункт аб двух эмісійных цэнтрах (у Маскве і ў Мінску). Акрамя таго, у ім амаль адсутнічаюць нейкія канкрэтныя тэрміны і лічбы. За выключэннем некалькіх: даты поўнага пераходу на адзіную валюту – 1 студзеня 2005 года, аб'ёму фінансавай дапамогі расійскага ўрада на падтрымку плацёжнага балансу Беларусі ў памеры 200 мільёнаў долараў у 2001 годзе і 4,5 мільярдаў расійскіх рублёў для фарміравання валютнага рэзерву Нацбанка Беларусі, якія за тэрмін поўнага пераходу на адзіную валюту павінен унесці Цэнтрабанк Расіі.

Што дадуць у наступным годзе 200 мільёнаў долараў – гэта відавочна. Відавочна і тое, на што гэтыя грошы пойдуць: беларускія ўлады скарыстаюць іх на падтрымку эканомікі ў цяперашнім стане і на падтрымку валютнага курса. А галоўнае, на забеспячэнне будучых прэзідэнцкіх выбараў.

Але ёсць абставіны, якія, як лічаць эксперты, ці ігнаруюцца, ці, насупраць, наўмысна замоўчваюцца двума бакамі. Выгады Беларусі носяць тактычны характар. Так, можа быць дасягнутая стабілізацыя на 1,5-2 гады. Увогуле, гэта не выгады краіны, а шанец для рэжыму. Расія ў бліжэйшай перспектыве ніякіх выгад не мае, але добра бачыць свае стратэгічныя інтарэсы. І так, як развіваюцца падзеі, гэтыя інтарэсы можна рэалізаваць толькі за кошт беларускіх.

Па-першае, прыняўшы расійскія грошы, Беларусь адсякае для сябе апошнія магчымасці атрымоўваць крэдыты на Захадзе, а разам з тым і магчымасці эканамічнага, прынамсі, гандлёвага супрацоўніцтва з заходнімі краінамі. Па-другое, ужо сёння ад продажу ў Расіі беларускіх тавараў на 1.000 рублёў там прыходзіцца купляць матэрыяльных рэсурсаў ды энерганосьбітаў на 1.500 рублёў. Гэта значыць, што, губляючы канчаткова інвестыцыйныя крыніцы на Захадзе, Беларусь нічога не атрымае і на Усходзе. Бо пакуль беларуская прамысловасць будзе балансаваць на мяжы стратнасці-прыбытковасці, расійская, за кошт мадэрнізацыі, зможа закрыць для яе ўвесь свой унутраны рынак. Пасля гэтага застанецца толькі апеліраваць да славянскай салідарнасці з боку старэйшага брата. Ён, пэўна, і дапаможа, але ўжо не задаволіцца роллю саюзнага донара і запатрабуе ў якасці платы тыя беларускія прадпрыемствы, з якіх яшчэ можна будзе атрымоўваць нейкаю выгаду. А з астатнімі зробіць тое, што звычайна робіць замежны інвестар — пазбавіць танных грошай і пусціць па свету. А ўзамен атрымае рыначную прастору і манапольнае становішча на ёй.

Пакуль што застаюцца два варыянты, рэалізацыя якіх зробіць такі сцэнар немагчымым. Па-першае, да ўлады ў Беларусі можа прыйсці лідэр і ўвогуле сфарміравацца сістэма ўладаў, для якіх суверэнітэт дзяржавы будзе найвышэйшай каштоўнасцю. Ці наадварот, Лукашэнка не зможа ўтрымацца ва ўладзе законным спосабам, як ужо не ўдалося яму сфарміраваць відавочна легітымны парламент. У першым выпадку — гандляваць суверэнітэтам будуць, але з улікам стратэгічных інтарэсаў краіны і грамадства. У другім — беларускі суверэнітэт, уласна кажучы, украдзены ў народа, будзе каштаваць нейкую дробязь. У расійскіх пакупнікоў будзе вялікая спакуса, каб набыць яго за медную капейку... Але тыя, хто сёння купляе крадзенае, становяцца ізгоямі ў сусветнай супольнасці. А Расія мала таго, што прэтэндуе на значную ролю ў сусветнай палітыцы, яе карэнныя інтарэсы залежаць ад добрых да яе адносінаў сусвету.

Таму сённяшнім беларускім уладам трэба моцна задумацца. Увесь гэты гандаль можа скончыцца тым, што ў «кармане застанецца вош на аркане». А такіх палітыкаў, як даводзіць гісторыя, ніхто ў грош не ставіць. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Прыватнікі

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Не атрымалася на Беларусі рэстаўрацыя капіталізму. Цягнецца дзесяць гадоў нешта незразумелае... Разам з ім цягнуцца пажаданні вышэйшага начальства «аб стварэнні спрыяльных умоваў дзеля развіцця прадпрымальніцтва, малога і сярэдняга бізнесу як аднаго з галоўных чыннікаў стабільнага росту эканомікі».**
**Вакол віруе жыццё, а мы ў бясконцым змаганні будуем рынкавы сацыялізм з лукашэнкаўскім тварам. Апошні ёсць у кожнай кнігарні — гэта ад сацыялізму, а пэўная колькасць недзяржаўнай уласнасці — ад рынку.**

Давайце зірнем на лічбы. Пасля ўдарнай дзесяцігодкі трансфармацыі эканомікі ва ўсёй Усходняй Еўропе вынікі відавочныя. Але нельга забываць, што за той прыгожай статыстыкай вельмі розны ўзровень жыцця. Суседкі Украіны па табліцы жывуць у дзесяць разоў лепей за яе. Нас у гэтым спісе няма. Разгледзім сябе асобна, таму што крыху інакш — і начальнікі, і масы працоўных — разумеем прыватызацыю, чым у той Еўропе. Прыкладам, у нас лічыцца прыватызаванай сёмая частка сельгаспрадпрыемстваў. Без каментароў...

За часы «пераходнага перыяду» прыватызавана 3.876 суб'ектаў гаспадарання. Наша паўзучая прыватызацыя ледзьве адсунулася ад савецкага дзяржманапалізму. Мяркуйце самі, гандаль і рэстарацыі прыватызаваныя хіба на трацiну, астатнія галіны значна меней.

Прыватызацыя не ўплывае ні на адзін сегмент рынку, за выняткам рынку працы. Паводле мінстата, у недзяржаўным сектары занята ў нас ледзь не палова працаздольных. Але гэта як лічыць. Бо калі на прахадной змянілі шыльду на «ОАО», дык што змянілася па сутнасці?

За апошнія пяць гадоў, калі ўсё збольшага ўтрэслася і стала відавочным, народ тым не менш не пазбавіўся «прагі зыску». І зараз амаль дзве трацiны насельніцтва апытаныя НІСПД лічаць, што гэта першае жаданне капіталіста. Атрымліваецца як з тым сексам у Савецкім Саюзе: яго няма, а дзеці родзяцца.

Пра свой прадпрымальніцкі досвед паведамляе сацыёлагам 23% апытаных, што ў маштабе краіны складае блізка 1,5 млн. чалавек. Асноўную масу спакусілі менавіта чуткі аб прадпрымальніцкім прыбытку. Але купецкая «булка з чорнай ікрой» не ўсім прыйшлася даспадобы.

За апошнія дзесяць гадоў больш за 600 тыс. чалавек паспрабавалі вольнага беларускага бізнесу і зарakліся ім займацца.

Такім чынам, простыя разлікі сведчаць, што прылічвае ў большай ці меншай ступені сябе да прадпрымальнікаў амаль 900 тыс. жыхароў нашай краіны. Тым часам у падатковых органах зарэестравана ўсяго каля 100 тыс. суб'ектаў гэткага гатунку.

Дадзены факт яскрава сведчыць пра няўмірučасць партызанскага стылю жыцця. За дзесяць гадоў «натуральнага адбору» штогод трапляла ў бізнес 150 тыс. чалавек і кідала гэтую няўдзячную справу — 60. Такім чынам з'явілася не менш як паўмільёна грамадзянаў, якія паспяхова існуюць у паралельным свеце побач з нашай гордай дзяржавай і ўмацоўваюць ценевы рынак.

Афіцыйныя прыбыткі ад прадпрымальніцтва хутка дасягнулі вызначанай дзяржавай столі. Паводле кан'юнктурных апытанняў НДЭІ, яны ёсць вызначальнымі ўсяго для 10% сем'яў. А няблага жыве з прадпрымальніцтва не больш за 90 тыс. сем'яў. Вось іх і падатковае ведамства заўважае, і статыстыка.

Астатнія маюць нешта, але іхны бізнес найчасцей — разовыя незарэестраваныя гешэфты, дробны чаўночны бізнес, гандаль з рук і да т. п. Нашае раздзяржаўленне перш-наперш у тым, што міма дзяржавы на стол беларуса трапляе 93% вішань, 81% часнаку, 78% сырога малака, 78% кабачкоў, 77% сліваў, 74% бульбы, 71% сала і прадуктаў з яго, 48% агуркоў, 45% мёду і г.д.

Карацей, паўмільёна ценевых эканамічных партызанаў і падпольшчыкаў даюць добрую чвэрць славутага ВНП. І тут няма іроніі, бо кожная другая кіля спажытага харчу ў нашай калгаснай краіне выраблена прыватнікам. Тое самае і ў сферы паслугаў.

Заелі нас «вашывыя блохі»? Не надта. Каб абвергнуць тэзу пра паразітызм прадпрымальнікаў зірнем на малюнак. Супастаўце хуткі рост падаткаў з дынамікай колькасці прадпрымальнікаў. Бачыце якіх загартаваных капіталюгаў мы выгадавалі на дзіва ўсяму свету.

Насамрэч, спачатку забуяла прыватная вытворчасць, потым рост падаткаў падтрымаў тэндэнцыю, а потым стаў разбураць недзяржаўную сістэму вытворчасці.

Не будзьма крычаць «гвалт», бо яшчэ не ноч, але і ў ладкі пляскаць няма чаго. Зірніце на малюнак і параўнайце наш стан рэчаў з усходнееўрапейскім, улічыўшы асаблівасці беларускага жыцця.

Дык вось, гэта аўтару і чытачам шаноўным ёсць час разважаць, а бізнесоўцы мусяць вокамгненна рэагаваць на сітуацыю. Яны і рэагуюць. У залежнасці ад памеру капіталу і абавязацельстваў. Буйныя выводзяць бізнес за межы Беларусі, дробныя — страйкуюць ды бунтуюць.

Паспаліты люд бяднее і амаль нічога не ведае пра сапраўдных багацеяў, затое не любіць кулакоў і падкулачнікаў. Усе разам старанна хаваюць свае пядзі і крохі ад дзяржавы, бо не бачаць у ёй абаронцы сваіх правоў і маёмасці.

А дарма, дзяржава так стараецца. Па колькасці закрытых у турмах эканамічных злачынцаў (на сто тысячаў жыхароў) мы сярод сусветных лідэраў. ■









